


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 8 (269) ТРАВЕНЬ 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

***Пакіньма спадчыну мы для патомкаў інакшую ад той, што ўзялі ад продкаў на абломках гісторыі сваёй***

***Янка Купала***

НАША СПАДЧЫНА

# КРОПКУ Ў СПРЭЧКАХ ПАСТАВІЎ АГОНЬ

**Драўляны цуд, які не знішчылі дзве вайны, згубіла чалавечая неахайнасць.**

Напярэдадні Міжнароднага дня помнікаў і гістарычных месцаў, які адзначаўся 18 красавіка, на Гарадоччыне здарылася сумная і нечаканая падзея. Раён згубіў адну з найцікавейшых архітэктурных каштоўнасцей — храм Святых апосталаў Пятра і Паўла ў вёсцы Рамні.

Такім быў храм да пажару.

Незвычайны для спрадвечна праваслаўнай мясцовасці касцёл заўжды прываблівaў вандроўнікаў і аматараў даўніны. Шэдэўр драўлянага дойлідства ў Межанскім сельсавеце даводзілася бачыць і мне падчас камандзіровак у гэты надзвычай маляўнічы куток паўночна-ўсходняй глыбінкі з бяскрайнімі лясамі, мноствам азёр, старажытнымі курганамі і гарадзішчамі.

Па іроніі лёсу касцёл выстаяў у часы ваеннага ліхалецця, калі тут праходзілі жудасныя баі, палалі цэлыя вёскі, і быў знішчаны падчас навядзення парадку на тэрыторыі вёскі. Па версіі Следчага камітэта, помнік архітэктуры згарэў з прычыны неасцярожнага абыходжання з агнём пры спальванні смецця. Многія, каму давялося бачыць ці чуць пра гістарычную каштоўнасць, напэўна, задаваліся пытаннем: адкуль з'явіўся храм і чаму помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння заставаўся нікому не патрэбным?

...Касцёл узведзены на мураваным фундаменце XVIII стагоддзя, аднесіўся да аднаярубавых культавых пабудоў і ўяўляў сабой спалучэнне класіцызму з рысамі стыля мадэрн і псеўдарускага. Менавіта тут доўгі час маліліся латышы, якія былі па веравызнанні лютэранамі.

Ідэалагічная барацьба з кулацтвам на вёсцы і сталінскія рэпрэсіі не абышлі латышскіх перасяленцаў. Яны вызначаліся гаспадарлівасцю, практыкавалі наватарскія метады землекарыстання. Не ўсе сем'і паспелі знайсці паратунак за мяжой. Сведак тых падзей на Гарадоччыне не знайсці. Храм Святых апосталаў Пятра і Паўла да нядаўняга часу быў адзіным напамінам пра лёс прыбалтаў на Гарадоччыне. Хваля атэізму не пашкадавала касцёл. Сцены, у якіх раней гучалі малітвы, калгаснікі прыстасавалі пад сховішча для зерня і ўгнаенняў.

На касцёл зноў звярнулі ўвагу ў канцы XX — пачатку XXI стагоддзя. Знакаміты навуковец Анатоль Дарафееў, ураджэнец Гарадоччыны, які ў свой час шмат зрабіў для таго, каб увекавечыць на малой радзіме памяць Канстанціна Вераніцына, аўтара паэмы «Тарас на Парнасе», заклапаціўся лёсам храма. Знайшліся спонсары з нямецкага дабрачыннага фонду, якія не выключалі магчымасці рэстаўрацыі занядбанай, але яшчэ крэпкай пабудовы. Зацікавіліся гэтым і палякі. Аднак у мясцовай улады на той час былі іншыя віды на лёс помніка архітэктуры. Было вырашана перадаць храм Віцебскаму епархіяльнаму ўпраўленню з мэтай рэстаўрацыі для правядзення ў ім богаслужэнняў, бо каталікоў на гэтых землях не засталося.

Праваслаўная царква нават пачала праводзіць рамонт. Аднак перабудаваць касцёл пад культавы праваслаўны храм немагчыма без парушэння арыгінальнай гістарычнай архітэктуры. Па хадайніцтве ўпраўлення культуры аблвыканкама самавольныя работы забаранілі. Пасля скандалу спрэчкі вакол гістарычнага помніка заціхлі, і ён зноў быў адданы забыццю. Пабудову вырашылі законсерваваць. У свой час былі прапановы перавезці храм у Дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту, але...

Зараз маем тое, што маем. Драўляны цуд, які не згубілі дзве сусветныя вайны, у мірны час чалавечая неахайнасць за лічаныя мінуты ператварыла ў гару чорнага друзу.

**Андрэй Захараў**
**"Сельская газета"**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

КУБАК БЕЛАРУСІ

# ОШИБКИ ПРЕДОПРЕДЕЛИЛИ ИСХОД

**22 мая в упорной борьбе по пенальти ФК «Детскосельский» уступил в 1/64 Кубка Беларуси команде второй лиги чемпионата Беларуси «СМИавтотранс» из Смолевич. Исход матча во многом предопределили не точные действия арбитра в дополнительное время и попустительство разговорам гостей в основное время.**

В Городке 22 мая состоялся первый матч национального уровня за независимую историю нашей страны. Наша команда «Детскосельский» на равных сражалась с командой второй лиги чемпионата Беларуси по футболу из Смолевич Минской области. А матч обслуживал 21 летний арбитр-дебютант Алексей Сысоев из г. Осиповичи Минской области.

Наша команда, собравшая на 80% свой наилучший состав, дала бой игрокам из более высокого дивизиона. Впервые за последнее время на стадионе был почти аншлаг. Любители футбола видели все перипетии 120 минутного противостояния в основное и дополнительное время, а также драматическое исполнение послематчевых пенальти.

Тренеру команды Сергею Курякову вновь удалось собрать в команду сильных игроков из областного центра и настроить их на борьбу. Но исход матча предопределило поведение судьи в пользу гостей.

Наверняка многие игроки смолевичской команды встречались на футбольном поле с Алексеем Сысоевым, который только начал судить матчи во второй лиге, поэтому позволяли себе вступать в разговоры с арбитрами, на которые ведущий рефери не реагировал. Но среагировал на высказывание ветерана витебского футбола Сергей Вехтева, которые получил за совет молодом арбитру первую желтую карточку в основное время, выйдя на замену за 15 минут до конца второго тайма. А в начале дополнительного времени наш мощный форвард на третьей минуте задел не намеренно легкого игрока гостей, которому помощь оказал дежурный врач. За этот эпизод Сергей Вехтев получил второе предупреждение и автоматически был удален. Как *(працяг на стар. 2)*

АПЫТАННЕ

# НЯ ВЕРАЦЬ У АФІЦЫЙНУЮ ВЕРСІЮ САМАГУБСТВА

**Гарадоцкія чытачы больш чым на чатыры пятых ня вераць у афіцыйную версію самагубства магілёўскага міліцыянта. Больш 70% чытачоў нашых груп у сацыяльных сетках ня вераць у афіцыйную версію самагубства магілёўскага міліцыянта, а яшчэ 13% лічыць што Следчы камітэт не адказаў на пытанні.**

У траўні месяцы рэдакцыяй сайта http://haradok.info было праведзена апытанне чытачоў груп сайта ў сацсетках наконт адносінаў да вынікаў мусіць самай рэзаннснай падзеі траўня — смерці супрацоўніка ДАІ ў Магілёве. Нагадаем, што спачатку міліцыя і Следчы камітэт казалі пра забойства 21-гадавога даішніка пасля выкрадання. А пасля гучнага пахавання заявілі, што гэта было самазабойства.

Мы задалі пытанне: «Вы верыце ў самагубства магілёўскага міліцыянта забойцаў якога не знайшлі?»

І атрымалі тсакія вынікі ў сваёй групе ў ВК. За варыянты падтрымкі афіцыйнай версіі выказаліся так: «так, бо гэта афіцыйная версія» — 8.64 %; «так, бо забойцу не знайшлі» — 3.7 %. Але, як кажуць канстытуцыйная большасць з гэтым не пагадзілася і выбрала іншыя варыянты.

Варыянт «Не, бо ў афіцыйнай версіі ёсць нестыкоўкі» ўхваліла 71.6 % рэспадэнтаў, а такі адказ «не, бо Следчы камітэт не адказаў на пытанні» падтрымала 13.58 %. А гэта больш 85% адказаўшых на пытанне. І пра тое, што «пра гісторыю з міліцыянтам чую першы раз» заявіла толькі — 2.47 %.

Усяго ў апытанні прыняла ўдзел 81 чалавек з 1600 звярнуўшых увагу на апытанне.

Падобныя вынікі дала і апытанне ў нашай групе ў Аднакласніках, дзе па звычцы ўдзельнічала малая колькасць чытачоў — толькі 22 чытача з 1200 праглядзеўшых. А вынікі такія: «так, бо гэта афіцыйная версія» — 9,1 %; «так, бо забойцу не знайшлі» — 0 %; «не, бо ў афіцыйнай версіі ёсць нестыкоўкі» — 72,7 %; «не, бо Следчы камітэт не адказаў на пытанні» — 13.6 %; «пра гісторыю з міліцыянтам чую першы раз» — 4,7%.

Падобныя вынікі двух апытанняў у розных узрастовых групах сведчаць пра пэўную рэпрэзэнтатыўнасць апытання.

Новы паварот у справе са смерцю маладога супрацоўніка ДАІ дае і рэпартаж Радыё Свабоды, пра тое што бацькі міліцыянта Патаповіча ня вераць у суіцыд сына: https://www.svaboda.org.

Як кажуць будзем чакаць працягу.

**Л. Антонаў**

# Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

КУБАК БЕЛАРУСІ

*(пачатак на стар. №1)* это было видно в записи он-лайн репортажа, который вела в сети ВКонтакте Екатерина Изофилова — https://vk.com/id132991464 , а его эпизоды обработал Н.И. Кравцов.

А через пару минут главный арбитр никак не среагировал да грубую игру голкипера гостей Евгения Коваленко против нашего форварда Артема Клопава, который был уложен на газон ударом из разряда боев без правил, в штрафной гостей. Пенальти очевидный, но свистка не было.

Тренер команды Сергей Куряков так оценил качество судейства принципиального матча: «Всё написано и отснято, добавить особо нечего, кроме как посоветовать мальчику в судейской форме отдать маме свисток и заняться поисками другой профессии. Не везёт в начале сезона на судей, ну что поделать, но оправдываться не будем.»

После этого Сергей Валерьевич добавил : «Просто хочется сказать нашим ребятам спасибо за игру, за самоотдачу, за очередной триллер и захватывающие эмоции до последней секунды. Вы сделали всё что могли, отдали все силы. Даже у наших именитых, повидавших ветеранов (на троих около 1000 матчей в высшей лиге) эмоциональный фон зашкаливал.

Спасибо искренним болельщикам за поддержку! Команда ведь играет для вас. Артёму Клопову и Алексею Лебедеву (Славянский Велес) спасибо за помощь! Сезон продолжается и всё самое интересное ещё впереди.»

Да, наши футболисты проявили высокую самоотдачу. И из всех игроков следует особое спасибо сказать Эдуарду Изофатову, который на острие атаки провел все игровое время, терзая оборону гостей и снося все удары и ушибы от соперников, на которые часто не реагировал судья, а на последней минуте основного времени совершил небольшое чудо — сравнял счет из острого угла.

А матч завершился триллером послематчевых пенальти, когда после восьми подходов к мячу от каждой команды, счет стал — 6:7.

**Леонид Горовой**

ПРЫРОДА

# МЯДЗВЕДЗІ ПАЛОХАЮЦЬ ЖЫХАРОЎ

**Мядзведзі ўсё часцей наведваюцца ў населеныя пункты Гарадоцкага раёна. Касалапыя заходзяць на пчальніка[, руйнуюць вуллі, падыходзяць да дамоў, паведамляе тэлеканал «Віцебск». Жыхар апавядае: «Паеў мёду і заснуў - пад галаву нават падушку паклаў».**

Дачнік з вёскі Латыгава сустрэўся з мядзведзем-шатуном зімой на паляванні - мужчыну пашанцавала, што яго абараніла сабака. Пенсіянер распавядае, што мясцовыя жыхары ўжо гады два не ходзяць у лес па ягады, бо баяцца мядзведзяў. Звяры мігруюць у Гарадоцкі раён з суседняй Расіі.

Некалькі гадоў таму мядзведзь зайшоў у двор школы ў вёсцы Пальмінка. А зусім нядаўна жывёла сустрэў дачнік з садовага таварыства «Шухвосты». Мядзведзь паеў мёду, разгарнуў вуллі, а затым лёг спаць. Пад галаву нават паклаў падушку, якую знайшоў на ўчастку.

- Мы не ведаем, што рабіць! Страляць нельга - яны ў Чырвонай кнізе. А як нам жыць? - абураюцца мясцовыя жыхары.

**Пераклад з каналу "Віцебск"**

ФУТБОЛ

# СТАРТАВАЛІ З ПЕРАМОГІ

**Гарадоцкая каманда стартавала з перамогі ў чарговым чэмпіянаце Віцебскай вобласці па футболе.**

19 мая ФК «Дзецкасельскі» дома ў стартавым матчы чэмпіянату Віцебскай вобласці з віцебскай камандай «Славянскі Велес» дасягнуў перамогі 1:0.

Па традыцыі апошніх гадоў гарадоцкая каманда стартуе ў чэмпіянаце на сваім полі і дабіваецца перамогі. Аматары футболу Гарадка пасля самага паспяховага сезону ў гісторыі гарадоцкага футболу, калі быў заваяваны Кубак вобласці і сярэбраныя медалі чэмпіянату, чакалі навін ад стартавай гульні.

І зноў, як і ў мінулыя гады, стартавы склад каманды каардынальна змяніўся пасля зімовага перапынку. Найперш з гарадоцкай камандай развітаўся Алег Слаўцін — найлепшы гулец апошняга года, які перайшоў у каманду больш высокага ўзроўня. Таксама за каманду не выступае і Сяргей Вехцеў, былы капітан ФК «Віцебск». І ў стартавым складзе з мінулагодняга сезона засталіся толькі Арцём Палавінскі, Аляксей Пляхневіч, ДзянісФадзееў. Адпаведна каманда ўмацавалася новымі гульцамі Русланам Ібадулаевым, Канстанцінам Кіташавым і Яўгенам Чарнухіным, якія працуюць з ФК «Віцебск». Фактычна абнаўленне каманды адбылося на дзве трэці. Відавочна, што вынікі такога абнаўлення будуць бачны ўжо ў першым крузе. Варта адзначыць, што наша каманда выступае ў новай форме — вытрыманай у хрысціянскіх колерах — белых і чырвоных.

Матч пачаўся з атак гаспадароў, якія хутчэй праходзілі сярэдзіну поля. На вастрыні атакі былі Руслан Ібадуллаеў, Дзяніс Фадзееў, Ілля Мялік. Госці ж нанеслі першы удар па нашых варотах толькі на пятай хвіліне.

Рашаючы момант матча адбыўся на 22 хвіліне, калі Руслан Ібадуллаеў, знаходзячыся ў цэнтры штрафной пляцоўкі, добра падпрацаваў мяч і паразіў левы кут варот гасцей, што іх брамнік толькі правеў мяч позіркам.

Потым яшчэ на 28 хвіліне аўтар гола Руслан Ібадуллаеў у падзенні з разварота трапіў у перакладзіну. На гэтымі і завяршыўся першы тайм.

У другім тайме вялася пазіцыйная барацьба па ўсяму полю і час ад часу галявыя моманты ўзнікалі ў кожных варот, але бамбардзірам не хапрала дакладнасці. Ды і спякотнае надвор'е паціху адымала сілы ў гульцоў, калі тэрмометр падняўся пад 29 градусаў.

У выніку гол з першага тайма прынёс першую перамогу гарадоцкай камандзе. Нагадаем, што годам раней наша каманда атрымала валявую перамогу над «Газавікам» з Віцебска — 2:1.

Трэнер нашай каманды Сяргей Куракоў так пракаментаваў вынік гульні: «Сегодня при такой жаре было всем тяжело. Игра проходила в более медленном темпе, по сравнению с разгаром сезона. Это и понятно, команды и игроки только разгоняются и набирают форму. Но, наша команда была более слажена в своих действиях, мы больше контролировали мяч, старались созидать. В первом тайме мы владели преимуществом, забили гол. Во втором тайме отдали инициативу, рассчитывали на контратаки. У нас были моменты увеличить счёт, но не получилось. Главное, что мы надёжно и качественно сработали в защите и не дали сопернику шансов что-то изменить в свою сторону.

Результат положительный и это главное!

Почивать на лаврах и расслабляться нам некогда, в среду у нас историческая игра для нашего города.

Спасибо игрокам и нашим болельщикам!!!»

З вынікаў першага тура варта адзначыць перамогу ФК «Сянно» над дубровенскай камандай — 4:2, і тое што разышліся мірам футбалісты з Талачына і віцебскага «Газавіка» — 1:1.

На гэтым тыдні нашу каманду чакае выпрабаванне ў 1/64 Кубка Беларусі па футболу. У сераду 22 мая вечарам, а не ў 13.00, адбудзецца матч з ФК «СМІаўтатранс» са Смалявіч Мінскай вобласці, які гуляе ў другой лізе чэмпіяната Беларусі.

**Л. Антонаў**

КУЛЬТУРА

# УСПЕХ «ФОНОГРАФА»

**Успех Городокского народного театра миниатюр «Фонограф» на XV областном празднике юмора «Смеяться не грех».**

18 мая в Шумилино состоялся XV областной праздник юмора «Смеяться не грех». Коллективы из различных регионов Витебской области в этот день демонстрировали зрителям и жюри свои таланты и умение рассмешить народ.

Также в рамках праздника состоялись конкурсы на самый шикарный и вкусный пряник и символ праздника, выставка кукол и игрушек «С улыбкой на лице», смотр-конкурс уличных представлений, а также концерты-выступления автоклубов.

Народный театр миниатюр «Фонограф» Городокского ГДК завоевал 6 наград. Дипломом 2 степени отмечен юмористический мини-проект «Там хорошо, где Родина», дипломом 2 степени «За лучшее пластичное решение» (автор и руководитель Ольга Люкшина), диплом 1 степени также завоевала участница театра Ирина Землякова с басней В. Корбана «Лев и суслик», диплом 1 степени получила пародия на популярных и известных личностей «Я не из вашего края» (руководитель Ольга Люкшина), дипломом 2 степени в смотре-конкурсе уличных художественных представлений отмечена клоунада «Веселые барабанщики» (руководитель Ольга Люкшина), в конкурсе на самый вкусный пряник «Асалода» 1 место заняла Е.Веремеева.

**Новость с сайта gorodok.vitebsk-region.gov.by**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# БИЗНЕС С НУЛЯ В ГОРОДКЕ

**Физлидин Батманов родом из Дагестана, но Городок считает второй малой родиной и старается сделать жизнь в городе комфортнее.**

— После школы меня призвали в армию. Служил на западе СССР, поэтому после демобилизации поступил в Могилевский технологический институт, ныне госуниверситет продовольствия. Женился на белоруске, по распределению попал на Городокский молокозавод. Это было в начале 1990-х годов, родственники звали домой, но мы с семьей решили остаться на Витебщине, — сказал Физлидин Лукманович. — Отработав пять лет, перешел в систему райпо, заочно получил экономическое образование, возглавлял районные комбинаты кооперативной промышленности и бытового обслуживания. Особо нравилось трудиться в сфере оказания услуг населению, я с удовольствием вникал в специфику новых для себя отраслей. Видел пробелы в деятельности госструктур, в частности парикмахерских. Поэтому в 2003-м решил открыть собственную.

Первым делом Физлидин Батманов стал на учет в центре занятости — начинающим предпринимателям оказывали финансовую поддержку, если они планировали трудоустроить местных жителей. Затем снял помещение в здании автостанции, нанял нескольких парикмахеров, а сам занялся административно-хозяйственными делами.

— Пять-шесть специалистов, с которыми я тогда начинал, до сих пор работают со мной. Они профессионалы высокого уровня, влюбленные в свою профессию, поэтому у нас много постоянных клиентов, — сообщил Физлидин Лукманович.

Спустя десять лет студия причесок «Элема» переехала с арендуемых «квадратов» в собственный просторный и современный дом в центре Городка. Для этого ее хозяин проделал титаническую работу.

— Я выкупил здание бывшего Дома ремесел. Оно было в аварийном состоянии, но меня прельстило наличие окон со всех сторон, обеспечивающих хорошее естественное освещение, — отметил Физлидин Батманов. — За несколько лет выполнили капитальный ремонт — от фундамента до кровли. Здесь работают водопровод, канализация, постоянно есть горячая вода. В итоге к областным «Дажынкам», проходившим в райцентре в 2014-м, здание стало настоящим украшением города.

Еще до переезда в новые апартаменты предприниматель расширил свой бизнес, став юридическим лицом и занявшись ремонтом обуви и оказанием ритуальных услуг. Поэтому продумал все так, чтобы разместить их в одном месте. В частности, появился отдельный вход, чтобы посетители разных заведений не пересекались.

— Мы сами изготавливаем продукцию для ритуального магазина, в том числе памятники и ограды. Поэтому наши цены ниже, чем у конкурентов. Также круглосуточно оказываем транспортные и любые другие необходимые в случае смерти человека услуги, — уточнил Физлидин Лукманович.

С каждым годом конкуренция на рынке растет, но Физлидина Батманова это не пугает. Его команда старается работать качественно и с душой, прислушиваться к пожеланиям клиентам, создавать для них уютную атмосферу, развиваться. Люди чувствуют хорошее отношение к себе и раз за разом обращаются к услугам ЧТПУП «Лукманович».

**Эдуард Королевич "Віцебскія весці"**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# БЕЛАРУСКІ ВАРЫЯНТ МІФА

**Міф пра зборачны цэх СССР адарваўся ад рэальнасці, жыве цяпер у віртуальнай прасторы ды падсілкоўваецца намаганнямі дзяржаўнай прапаганды і нагадвае міф пра Ахілеса і чарапаху..**




«Усё цячэ, усё змяняецца». Аўтарства гэтага выказвання прыпісваюць старажытнагрэчаскаму філосафу Гераклiту (каля 554–483 да н. э.), аднак мы лёгка можам знайсці яго паслядоўнікаў сярод родных бяроз і асін. Да прыкладу, у снежні 2009 года адзіны палітык (АП) надаў сярэдняй зарплаце сакральны статус. Ён паставіў перад урадам задачу такой цаной «крыві з носу» выйсці на «святую лічбу» (500 у доларавым эквіваленце) да канца 2010 года.

Але ўсё цячэ, усё змяняецца. 19 красавіка ў Пасланні–2019 тое, што на працягу дзесяці гадоў афіцыйна лічылася святым, было паніжана да будзённага: «Мы павінны стварыць людзям мінімальна нармальныя ўмовы для жыцця. А гэта перш за ўсё тыя «няшчасныя» 500 долараў».

Тут напрошваецца яшчэ адна паралель, навеяная рэшткамі школьных ведаў з антычнай гісторыі і міфалогіі. Магчыма, чытач ужо здагадаўся, што гаворка ідзе пра Ахілеса і чарапаху. Хутканогі герой не ў стане дагнаць чарапаху, бо за час, які ён марнуе на пераадоленне першапачатковай адлегласці, што аддзяляе яго ад прадстаўніка атрада паўзуноў, гэты ціхаходны прадстаўнік паспявае прапаўзці пэўную адлегласць.

З заробкам у доларавым эквіваленце ўжо дзесяцігоддзе назіраецца аналагічная гісторыя. Налічаны ў рублях заробак упэўнена расце, але гэтак жа ўпэўнена зніжаецца курс беларускага рубля. Звернемся да сакавіцкай статыстыкі. Сярэдні заробак за першы вясновы месяц склаў 1056,9 рубля, што з улікам курсу на канец месяца (2,1285 BYN / USD) адпавядала 497 доларам.

Не хапіла нейкіх 3 долараў да «няшчасных» 500. Але не хапіла. Такім чынам, узяты ўладай дзесяць гадоў таму абавязак і цяпер застаецца не дасягнутым…

**Флагманы прыспускаюць сцягі**

Айчынны варыянт старажытнагрэчаскага міфа пры жаданні можна выкарыстоўваць у якасці ілюстрацыі стану «беларускай мадэлі» на сучасным этапе яе развіцця. Але калі мы кажам пра развіццё, неабходна памятаць, што яно бывае як са знакам «+», так і са знакам «–». У другім выпадку правільней казаць не пра развіццё, а пра дэградацыю…

«Беларуская эканоміка, — пераконваў 19 красавіка дэпутатаў і народ АП, — і надалей працягне будавацца на аснове развіцця буйных прадпрыемстваў і вытворчасцяў. Гэта наш бясспрэчны прыярытэт».

Наколькі такое вызначэнне прыярытэтаў пацвярджаецца афіцыйнай статыстыкай? Для адказу на гэтае пытанне звернемся да раздзелу «Структура валавога ўнутранага прадукту па відах эканамічнай дзейнасці» на сайце Белстата. У 2009 годзе ўклад апрацоўчай прамысловасці ў ВУП склаў 22,5%, а ў 2017 годзе — 21,6%. Досыць сціпла, калі параўнаць з укладам у ВУП сектара паслуг: у 2009 годзе — 42,2%, 2017-м — 47,7%.

Беларуская эканоміка даўно ўжо стала эканомікай паслугаў, а не эканомікай прамысловай вытворчасці, што адпавядае сусветнай тэндэнцыі. Аднак з вокнаў Палаца Незалежнасці змены, што адбыліся ў структуры эканамічнага складніку «беларускай мадэлі», разглядзець не атрымліваецца.

Што тут можна параіць? Адказ на гэтае пытанне ўтрымліваецца ў звароце АП да Савета Міністраў: «Трэба ўсім нам апусціцца на зямлю і быць бліжэй да людзей. Я часта кажу: калі не ведаеш, што рабіць, ідзі да людзей — яны табе падкажуць і дапамогуць».

У Пасланні–2019 прадукцыі МТЗ, МАЗ і БЕЛАЗ быў нададзены статус нацыянальнага здабытку. Дададзім да пералічаных прадпрыемстваў «Атлант» і «Гарызонт» з «Віцязем» — і з дапамогай табліцы ацэнім дынаміку развіцця/дэградацыі нацыянальнага здабытку за дзесяць гадоў.

**Пра поўную тэхналогію ўтрымання дойнага статку**

Прапаную прайсціся далей па тэксце Паслання–2019: «Па кожным кірунку неабходныя праекты будучыні, якія адпавядаюць лепшым сусветным тэндэнцыям. Новыя вытворчасці і тэхналогіі, а значыць — тавары. Пры гэтым неабходна думаць не пра тое, колькі мы здольныя вырабіць, а пра тое, куды і колькі зможам прадаць».

Для разумення ўсёй глыбіні прыведзенай цытаты нам давядзецца звярнуцца да паняцця «мадэрнізацыя, якая даганяе». У XVII–XVIII стагоддзях пратэстанцкія краіны Паўночнай Еўропы з

*(працяг на стар. 4)*

**ДЫНАМІКА ВЫПУСКУ ПРАДУКЦЫІ ФЛАГМАНАМІ БЕЛАРУСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ (ТЫСЯЧ ШТУК)**

| Прадукцыя | 2008 | 2017 | Змяненні* |
|---|---|---|---|
| Трактары | 69,2 | 40,8 | – 41 |
| Грузавыя аўтамабілі | 24,4 | 6,4 | – 74 |
| Самазвалы кар'ерныя (шт.) | 1887 | 1097 | – 42 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | 1106 | 857,9 | – 22 |
| Тэлевізары | 717 | 597 | – 18 |

* У працэнтах

РЭЗАНАНС

# ШТО НЯ ТАК З АФІЦЫЙНАЙ ВЭРСІЯЙ ПРА САМАГУБСТВА?

**Хуткае пахаваньне, крымінальная справа па артыкуле за забойства, зьнішчаная вопратка і іншыя незразумелыя моманты гучнай справы.**

У першай палове дня 20 траўня, прыкладна праз 80 гадзін пасьля таго, як пад Магілёвам знайшлі цела 22-гадовага супрацоўніка ДАІ Яўгена Патаповіча, Сьледчы камітэт правёў тэрміновы брыфінг. На мерапрыемстве, якое не прадугледжвала пытаньняў з боку журналістаў і куды запрасілі толькі невялікае кола дзяржаўных СМІ, начальнік галоўнага сьледчага ўпраўленьня СК Юген Архірэеў паведаміў, што галоўная вэрсія сьмерці афіцэра — суіцыд.

Па словах сьледчых, да такой высновы яны прыйшлі пасьля вывучэньня ўсіх акалічнасьцяў сьмерці міліцыянта, яго асабістай перапіскі і знойдзеных на месцы здарэньня сьлядоў. Тым ня менш да вэрсіі, агучанай афіцыйнымі прадстаўнікамі СК, таксама застаюцца пытаньні.

**Інфармацыю пра забойства распаўсюдзіў сам СК**

Першым пра выкраданьне афіцэра ДАІ ў Магілёве прыкладна а 20 гадзіне чацьвярга 16 траўня паведаміў тэлеграм-канал NEXTA.

«Надзвычайнае здарэньне ў Магілёўскай вобласьці! — гаварылася там. — Увесь асабісты склад абласнога УУС падняты па трывозе, а ў рэгіёне ўведзены плян „Сырэна“. Выкрадзены супрацоўнік органаў унутраных спраў — афіцэр дарожна-патрульнай службы ДАІ».

Неафіцыйныя паведамленьні пра тое, што цела супрацоўніка ДАІ знайшлі ў лесе пад Магілёвам, зьявіліся праз некалькі гадзін. Першае афіцыйнае паведамленьне пра сьмерць Яўгена Патаповіча прыйшло ад СК у той жа вечар чацьвярга. У тэлеграм-канале Сьледчага камітэту паведамілі, што завялі крымінальную справу па артыкуле 362 («Забойства супрацоўніка органаў унутраных спраў у сувязі з выкананьнем ім абавязкаў па ахове грамадзкага парадку») і што справа знаходзіцца «на асабістым кантролі» старшыні СК Івана Наскевіча. Пра «гібель падчас выкананьня службовых абавязкаў» паведаміла і МУС.

Чаму сьледчыя спачатку ўпэўнена называлі сьмерць Яўгена Патаповіча забойствам, а потым прыйшлі да высновы пра суіцыд, застаецца незразумелым.

На афіцыйным сайце СК дагэтуль (па стане на 14.00 20 траўня) гаворыцца пра расьсьледаваньне менавіта забойства, хоць крымінальную справу заводзяць і проста па факце сьмерці чалавека. Як, напрыклад, было ў выпадку сьмерці Аляксандра Коржыча.

**Кайданкі на руках**

Тое, што рукі загінулага былі ў міліцэйскіх кайданках, можна было пабачыць на апублікаваным фота з месца сьмерці Яўгена Патаповіча. Незразумела, ці магчыма ўвогуле самому закаваць сябе ў кайданкі. А таксама — навошта гэта было рабіць. Пытаньняў дадае і інфармацыя таго ж тэлеграм-каналу NEXTA, паводле якой кайданкі на руках нябожчыка былі зашпіленыя далонямі вонкі. Пры такім спосабе нашмат складаней выконваць нейкія дзеяньні.

**Чорная «Волга»**

Паводле паведамленьняў Сьледчага камітэту, першапачатковая інфармацыя пра чорную «Волгу» з расейскімі нумарамі і пасажырамі неславянскай зьнешнасьці, якая магла зьвезьці афіцэра ДАІ ў невядомым кірунку, аказалася непраўдзівай. Яна паходзіла ад самога загінулага, які такім чынам нібыта «хацеў паведаміць пра сваё месцазнаходжаньне».

Незразумела, якім чынам Яўген Патаповіч мог гэтак расказаць пра месца свайго меркаванага самагубства. Таксама застаецца загадкай, як ён увогуле дабраўся да месца, дзе пазьней быў знойдзены труп. Паводле СК, супрацоўнік ДАІ мог даехаць туды на неўстаноўленым пакуль спадарожным аўтамабілі. Сьледчыя цяпер высьвятляюць асобу кіроўцы, які завёз Яўгена Патаповіча ў лес.

**Прычыны самагубства**

Пра гэта таксама пакуль нічога невядома. Як вынікае з брыфінгу Сьледчага камітэту, Яўген Патаповіч ужо спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам, гэта здарылася ў красавіку 2019 году. Аднак застаецца незразумелым, чаму, нягледзячы на спробу суіцыду, Патаповіч заставаўся служыць у ДАІ і нават меў доступ да табельнай зброі.

Таксама, паводле СК, з дапамогай асабістага ноўтбука загінулага апэратыўнікі атрымалі доступ да паведамленьняў, якія Патаповіч дасылаў знаёмым. Тыя паведамленьні, па інфармацыі сьледства, таксама зьмяшчалі інфармацыю пра магчымы суіцыд.

Пры гэтым сябры і знаёмыя Патаповіча, зь якімі размаўлялі журналісты неўзабаве пасьля яго сьмерці, аднязначна характарызуюць яго як пазытыўнага маладога чалавека, які меў пляны на будучыню і быў задаволены ўмовамі службы ў ДАІ.

**Прыкметы гвалтоўнай сьмерці**

Адной з самых шакуючых дэталяў гісторыі са сьмерцю афіцэра ДАІ пад Магілёвам стаў здымак цела, апублікаваны ў тэлеграм-каналах. Яго сапраўднасьць у СК не аспрэчваюць, сьледчыя нават самі апублікавалі яшчэ адно фота, зробленае на месцы здарэньня. На абодвух здымках бачна, што труп міліцыянта агалены ніжэй поясу, у пахавай вобласьці сьляды крыві.

Паводле афіцыйнай вэрсіі, загінулы сам разьдзеўся перад сьмерцю і нават спаліў свае форменныя штаны з дапамогай загадзя падрыхтаванай гаручай вадкасьці. Навошта гэта было рабіць і ці ня можа зьнішчэньне вопраткі міліцыянта сьведчыць пра жаданьне зьнішчыць сьляды злачынства, у СК не тлумачаць. Не тлумачаць і таго, чаму Патаповіч перад сьмерцю набываў у краме дровы і рыдлёўку (відэа з камэраў назіраньня таксама паказвалі на брыфінгу ў СК).

Да таго ж у панядзелак 20 траўня СК паведаміў, што на целе ў загінулага афіцэра ня выяўлена ніякіх пашкоджаньняў, акрамя стрэлу ў галаву з табельнай зброі. Але ўсяго за тры дні да таго, 17 траўня, на сайце СК зьявілася іншае паведамленьне. У ім гаварылася, што ўвечары 16 траўня пад Магілёвам было знойдзенае «цела 22-гадовага лейтэнанта міліцыі з прыкметамі гвалтоўнай сьмерці».

Урачыстае пахаваньне Яўгена Патаповіча адбылося раніцай 18 траўня, менш як праз двое сутак пасьля сьмерці. Пакуль невядома, ці будзе перакваліфікаваная заведзеная пасьля яго гібелі крымінальная справа. Бацькі таксама пакуль ніяк не камэнтуюць сьмерць сына.

**https://www.svaboda.org**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

(пачатак на стар. №3)

нерухомасці сярэднявечнага ўкладу жыцця здолелі перайсці ў рэжым паскоранага і бесперапыннага развіцця. Гэты працэс і сталі называць мадэрнізацыяй. Хто не паспеў, той спазніўся — і неўзабаве сутыкнуўся з неабходнасцю даганяць.

Мадэрнізацыя, якая даганяе, — гэта мадэрнізацыя міжволі, гэта адказ лузераў на выклік Захаду, што пайшоў у адрыў, і праводзілася яна не «знізу» сіламі трэцяга саслоўя, а «зверху», згодна з дзяржаўнай разнарадкай.

Ці ёсць у АП і ўрада хоць нейкі шанец абраць праекты будучыні, якія б адпавядалі лепшым сусветным тэндэнцыям? Думаю, што мінімальны. Звярніце ўвагу, гаворка ідзе выключна пра новыя вытворчасці і тэхналогіі. Гэта традыцыя. Яна фармавалася стагоддзямі ў савецкі і дасавецкі час.

Пераймаючы тэхналогіі, улада адначасова рабіла гераічныя намаганні, каб адгарадзіць насельніцтва ад культурных дасягненняў Захаду, прадуктам якіх тыя тэхналогіі і з'яўляліся. Вынік такога аднабокага асваення праектаў будучыні быў прадэманстраваны на прыкладзе аб***ай каровы на ферме агрохолдынгу «Купалаўскі».

Нагадаю чытачам, што ініцыятарам мадэрнізацыі малочнай вытворчасці ў Беларусі ў 2012 годзе выступіў асабіста АП: «Я паставіў задачу пераўтварыць малочнатаварныя фермы ў малочнатаварныя комплексы. Адрозненне вы ведаеце: гэта захаванне поўнай тэхналогіі ўтрымання дойнага статку. Штучнае асемяненне, цэх сухастою, цэх раздою, цэх вытворчасці малака, сістэма водапаення, навозавыдалення, кармленне жывёлы — усё павінна быць па тэхналогіі! Вось што я ад вас хацеў! І даручыў у кожнай гаспадарцы ўзяць любую непрыдатную ферму і пераўтварыць у малочна-таварны комплекс». Нічога не магу сказаць наконт штучнага асемянення, але навозавыдаленню як элементу тэхналогіі поўнага цыклу ўтрымання дойнага статку спецыялісты агрохолдынгу «Купалаўскі» не далі рады, пра што і распавёў гораду і свету тэлеканал АНТ 26 сакавіка.

**Пра мух і катлеты**

Мадэрнізацыі, якія даганяюць, што дыктуюцца знешнімі выклікамі, заўсёды натыкаюцца на дэфіцыт асобасных рэсурсаў. Гэты дэфіцыт дзяржава спрабуе кампенсаваць «вельмі жорсткай дыктатурай тэхналогій і вытворчай дысцыпліны». Пасланне–2019 гэту болевую кропку «беларускай мадэлі», натуральна, не абышло. Цытую: «Ніякай дэмакратыі і балбатні! На гэта павінны быць мабілізаваныя ўсе, пачынаючы ад кіраўніка гаспадаркі, спецыялістаў і заканчваючы нашай міліцыяй. Кажу пра гэта адкрыта. Яны там не справяцца з тымі праблемамі, якія сёння існуюць у вёсцы».

Парадак на ферме без міліцыі — дэмакратыя і балбатня. Гэта можа падацца дзіўным, але іншая форма парадку на зямлі АП добра вядомая. Не выпадкова ж ён прывёў прыклад з фермерамі, якія пастаянна просяць у яго зямлю, але адмаўляюцца ад сельгаспрадпрыемстваў, фермаў і збожжатокаў. А самае галоўнае — адмаўляюцца ад сацыяльнай нагрузкі ў выглядзе вёсак з людзьмі.

У выніку аб'ядначь у межах «беларускай мадэлі» эфектыўную вытворчасць і моцную сацыяльную палітыку не атрымліваецца. Між тым, рэцэпт такога аб'яднання даўно ні для каго не з'яўляецца таямніцай — і палягае ён у аддзяленні мух ад катлет. Кожны павінен займацца сваёй справай: бізнес — вытворчасцю, дзяржава — сацыяльнай палітыкай на грошы, якія пералічваюцца бізнесам у выглядзе падаткаў.

Аднак для дзяржавы, якой «ёсць справа да ўсяго», такі падзел непрымальны. Тут, як і ў выпадку з крыжамі ў Курапатах, яна адчуе сябе чужой на свяце жыцця, бо любая праява грамадзянскай самастойнасці ўспрымаецца як пагроза. Аднак менавіта грамадзянская актыўнасць і дазволіла пратэстанцкім краінам Паўночнай Еўропы вырвацца ў XVII–XVIII стагоддзях з застою Сярэднявечча.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

УКРАІНА

# КАК ЗЕЛЕНСКИЙ ЗАСТАВИЛ УКРАИНЦЕВ ПЛАКАТЬ ОТ РАДОСТИ

**В ходе церемонии инаугурации, которая прошла 20 мая в Киеве в зале Верховной Рады Украины, Владимир Зеленский сделал несколько неожиданных заявлений, которые заставили аплодировать украинцев, собравшихся в правительственном квартале.**

Речь нового президента оказалась настолько яркой, что многие собравшиеся скандировали «Молодец!», а некоторые зрители, как было видно по трансляции, смахивали слезу умиления.

Что же такого особенного сказал Зеленский? «Салідарнасць» приводит наиболее интересные цитаты.

**О своей победе на выборах**

— Сегодня каждый из нас — президент. Это не моя, это наша общая победа. Каждый из нас присягнул на верность Украине. Каждый из нас погиб на Донбассе. Каждый день мы теряем каждого из нас. Каждый из нас переселенец и «заробитчанин», каждый из нас — украинец. Мы должны быть едины, ведь только тогда мы сильны.

**О возвращении украинцев**

— Сегодня во всем мире живет 65 миллионов украинцев. Я обращаюсь ко всем, кто живет в Европе, Азии, Южной и Северной Америке и Австралии. Всем, кто готов строить новую, успешную и сильную Украину, я с радостью дам украинское гражданство. Вы должны ехать в Украину домой, а не в гости. И привезите с собой, пожалуйста, свой опыт и знания.

**О войне на Донбассе**

— Наше самое первое задание — прекращение огня на Донбассе. Ради того, чтобы наши герои больше не погибали, я готов на все. Готов терять свою популярность и рейтинги. Если будет надо, готов потерять свою должность, чтобы только наступил мир. Не теряя наши территории. Никогда. Не мы начали эту войну, но нам ее заканчивать. Мы готовы к диалогу, но (переходит на русский) я уверен, что первым шагом для начала этого диалога станет возвращение всех украинских пленных.

**О портретах президента**

— Я очень хочу, чтобы в ваших кабинетах не было моих изображений, не было моих портретов. Потому что президент — это не икона, не идол. Президент — это не портрет. Повесьте туда фотографии своих детей! И перед каждым решением смотрите им в глаза

**О требованиях к Раде**

— Я очень вас прошу принять закон об отмене депутатской неприкосновенности, закон об уголовной ответственности за незаконное обогащение... Многострадальный избирательный кодекс... У вас на это будет два месяца до досрочных парламентских выборов. Я распускаю Верховную Раду VIII созыва.

**Об обещании народу**

— И напоследок, очень коротко. Дорогой народ. В течение своей жизни я пытался делать все, чтобы украинцы улыбались. Я так чувствовал сердцем, это была не только моя работа, правда. Это была моя миссия. Следующие пять лет я сделаю все, украинцы, чтобы вы не плакали. Спасибо.

**https://gazetaby.com**

ПАДЗЕЯ

# ГІСТОРЫЯ З ЦЫГАНАМІ ЯК ЛЮСТЭРКА ПАЛІТЫЧНАГА РЭЖЫМУ

**Карная акцыя супраць цыганоў — гэта дакладная ілюстрацыя функцыянаваньня паліцэйскай дзяржавы ў Беларусі.**

Знакамітая беларуская стабільнасьць зазнала чарговае выпрабаваньне. Калі ў краіне ўсё ціха і спакойна, то вонкава здаецца, што ў Беларусі поўны парадак, мір, справядлівасьць. Але стала ўжо правілам, нядобрай звычкай, што як толькі адбываецца нейкае незвычайнае здарэньне, дык адразу вылазяць на паверхню ўсе заганы існага аўтарытарнага рэжыму.

Галоўнай грамадзка-палітычнай падзеяй апошніх дзён стала справа аб гібелі супрацоўніка магілёўскага ДАІ Яўгена Патаповіча. На наступны дзень пасьля здарэньня на сайце МУС зьявіўся камэнтар: «Супрацоўнікі органаў унутраных спраў зробяць усё, каб тыя, хто зьдзейсьніў гэтае подлае злачынства, паўсталі перад судом. Пакараньне павінна быць адэкватна зробленаму».

Упоўнай адпаведнасьці з гэтай заявай міліцыя краіны была мабілізаваная на пошукі злачынцаў. Пачаліся пагромы цыганскіх пасёлкаў, масавыя затрыманьні, зьбіцьцё тамтэйшых жыхароў. То бок у звычайным рэжыме міліцыя знайсьці злачынцу ня ў стане. Для расьсьледаваньня простага крымінальнага злачынства трэба амаль што ўводзіць у рэгіёне надзвычайнае становішча.

Невядома, колькі часу гэта працягвалася б, калі б 20 траўня не прагучала як гром сярод яснага неба заява Сьледчага камітэту, што асноўная вэрсія сьмерці супрацоўніка ДАІ ў Магілёўскай вобласьці — суіцыд.

Тое, што ў гэтую вэрсію не паверыць грамадзтва, было відавочна. Гэта пацьвердзіла рэакцыя ў сацыяльных сетках. Бо вельмі вялікі недавер да ўладаў увогуле і да праваахоўных органаў у прыватнасьці. Так было і пасьля вылучэньня афіцыйнай вэрсіі і судовага прысуду па справе тэракту ў менскім мэтро.

Але больш важна, што пасьля гэтай заявы Сьледчага камітэту адразу стаў больш выразна бачны ўвесь абсурд цыганскіх пагромаў. Гэта нагадвае вядомы анэкдот пра люльку Сталіна. Не знайшоўшы сваёй люлькі, правадыр адразу ж паскардзіўся Берыі. Люльку хутка знайшлі на другім баку стала. Але тым часам Берыя пасьпеў расстраляць некалькі чалавек, прычым усе яны прызналіся ў крадзяжы. Калі б заява Сьледчага камітэту пра суіцыд спазьнілася на некалькі дзён, не выключаю, што зьявіліся б прызнальныя паказаньні нейкіх небарак.

Тое, што адбылося пасьля гэтай трагедыі зь Яўгенам Патаповічам — простая клясыка паліцэйскай дзяржавы. МУС паводзіў сябе як акупацыйнае войска на тэрыторыі чужой краіны. Калі забіваюць вайскоўца, то ўсё насельніцтва вёскі бяруць у закладнікі, пакуль ня выдадуць вінаватых.

Нічога новага. Пасьля выбуху на Дзень Незалежнасьці ў 2008 годзе сілавікі таксама пахапалі шмат людзей. Тое ж самае было пасьля тэракту ў менскім мэтро ў 2011 г. Калі пачаліся масавыя акцыі пратэсту недармаедаў у 2017 годзе, то немалая колькасьць людзей была затрымана ў справе «Белага легіёну». Стандартная лёгіка паліцэйскай дзяржавы: спачатку нахапаць шмат грамадзян, каб прадэманстраваць кіраўніцтву сваю стараннасьць, а ўжо потым разьбірацца, хто вінаваты, а раптам хто прызнаецца.

Ірэпрэсіі супраць пэўных сацыяльных групаў — таксама не навіна. У 1990-я гады пасьля вулічных акцый апазыцыі міліцыя хапала беларускамоўных. У 2000-х гадах перасьледавалі пратэстанцкія супольнасьці. У 2005 годзе шчамілі чальцоў Саюзу палякаў. Пасьля 19 сьнежня 2010 году ўлады правялі дэманстратыўна-паказальны пагром апазыцыі. Пэрыядычна ладзяцца аблавы на прадстаўнікоў ЛГБТ-супольнасьці.

Цяперашняя карная акцыя супраць цыганоў — гэта дакладны індыкатар банальнасьці зла ў беларускім варыянце.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку** 30.05.2019 у 17.50
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.